Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada

## НА 100-Я ЎГОДКІ АД НАРАДЖЭНЬНЯ ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

10 лютага, 2003 году спаўняецца 100 год ад нараджэньня Вінцэнта Жук-Грышкевіча, выдатнага беларускага дзеяча, які адыгрываў свайго часу ў беларускім вызволным руху значную ролю. Дзейнасьць ягоная абымала розныя галіны - пэдагагічную, навуковую, арганізацыйна-грамадзкую, палітычна-дзяржаўную й вялася не зважаючы на перасьледы, арышты, вязьніцы, ссылкі, канцэнтрацыйныя лягеры.

Нарадзіўся В. Жук-Грышкевіч 10-га лютага, 1903 году ў беларускай рыма-каталіцкай сям'і ў мястэчку Будслаў Вялейскага павету заходняе Беларусі. Пачатковую асьвету здабыў у Будславе, сярэднюю - у беларускіх гімназіях: у Будславе й Вільні. У 1922 годзе ён закончыў Віленскую Беларускую Гімназію.

Восеньню 1922 В. Жук-Грышкевіч паступіў на факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі ўнівэрсытэту Карла у Празе Чэскай і ў 1926 годзе закончыў студыі як вучыцель сярэдняй школы. У сьнежні 1932 году В. Жук-Грышкевіч ностыфікаваў свой чэскі дыплём на Унівэрсытэце Сьцяпана Батуры ў Вільні, здаўшы дзяржаўныя экзамены, якія валіфікавалі яго выкладаць у сярэдніх школах гісторыю й славянскую філялёгію.

26 ліпеня 1952 году В. Жук-Грышкевіч абараніў на Атаўскім унівэрсытэце ў Канадзе дактарскую дысэртацыю з галіны беларускае літаратуры на тэму «Лірыка Янкі Купалы» і 11 кастрычніка 1952 году атрымаў навуковую ступень доктара філязофіі з галіны літаратуры. Як пасьля др. В. Дж. Кэйэ, праф. Атаўскага унівэрсытэту, на адной з канфэрэнцыяў БІНіМ у Атаве, Канадзе, сказаў: **др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў першым беларусам, што здабыў дактарат на Атаўскім Унівэрсытэце .**

Пэдагагічную дзейнасьць пачаў В. Жук-Грышкевіч вярнуўшыся з Прагі Чэскай. У гадох з 1927-1939 ён быў вучыцелем у Віленскай Беларускай Гімназіі, дзе выкладаў гісторыю, беларускую мову й літаратуру. Гэтаксама быў выкладчыкам беларускае мовы ў Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі і ў Вышэйшай Школе Палітычных Навукаў у Вільні. Будучы ў войску ад 1945 да 1949 году. праф. В. Жук-Грышкевіч быў выкладчыкам гісторыі й псыхалёгіі ў вайсковых польскіх сярэдніх школах : у Порто Сан Джорджыё й Модэна - у Італіі ды Англіі.

У Канадзе ад 1951 да 1954 году быў выкладчыкам на, сарганізаваным ягоным стараньнем пры ўнівэрсытэце Таронта (University Extention), лектараце беларусаведы.

Апрача пэдагагічнай працы, В. Жук-Грышкевіч з 19-ці гадоў праз усё сваё даўгое жыцьцё займаўся навуковай, нацыянальна-грамадзкай і палітычнай дзейнасьцьцю. Ужо ў 1922 годзе, у часе першых выбараў у польскі сойм, ён, выпускнік Віленскай Беларускай Гімназіі, быў выбарчым інструктарам на Браслаўскі й Дзісьненьскі паветы ад Беларускага Выбарчага Камітэту ў Вільні; агітаваў па



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

сёлах і мястэчках за беларускіх кандыдатаў у польскі сойм і сэнат. Беларусы йшлі на выбары ў блёку г. зв. меншасьцяў Польшчы.

У Празе Чэскай В. Жук-Грышкевіч належаў да беларускіх студэнцкіх арганізацыяў; у Вільні браў актыўны удзел у беларускім «Навуковым Таварыстве», «Беларускім Вучыцельскім Саюзе», й у «Таварыстве Беларускай Школы - ТБШ»; супрацоўнічаў у часапісах і газэтах : «Беларуская справа», «Наша справа», «Народны звон», «Сям'я й школа» й «Маладая Беларусь». У 1936 годзе на агульным зьезьдзе польскіх гісторыкаў даў даклад на тэму "Rola ziem bialoruskich w unijach polsko-litewskich"

30 верасьня 1939 году, пасьля акупацыі Чырванаю арміяй Вільні, НКВД арыштавала В. Жук-Грышкевіча. Ён быў зьняволены ў турмах: Лукікскай, Беластоцкай, Вялейскай, Менскай, Полацкай, і ў Воршы. У 1940 годзе прачыталі яму прыгавор, ў якім было сказана, што ён «социяльно опасный елемент» , ды вораг народу й савецкай улады й дзеля гэтага прысуджаны на 8 гадоў «ісправітельных трудовух лягерей».

У гэтых «ісправітельных » ляерох ён разам з сотнямі іншых вязьняў будаваў найболей паўночную - ад Белага мора да паўночнага Уралу - чыгуначнаю лінію.

У выніку дагавору генэрала Сікорскага з Молатавым пра звальнен.не зь лягероў польскіх грамадзян ў 1942 годзе В. Жук-Грышкевіч быў звольнены, і каб урэшце вырвацца з Савецкага Саюзу, увосені 1942 году накіраваўся ў польскае войска, якое тады фармавалася з польскіх грамадзян.

З войскам гэтым, што было ў складзе 8-ай Брытыйскай арміі, ён быў у Іраку, Палестыне, Эгіпце й пасьля ў Італіі. Браў удзел у бітве пад Монтэ Касіна. Пасьля спыненьня ў 1945 годзе ваенных дзеяньняў у Італіі ён вылкадаў у вайсковай польскай сярэдняй школе гісторыю й псыхалёгію. З вучнямі-беларусамі падрыхтоўваў грунт для заснаваньня беларускай арганізацыі ў Англіі, куды ведама было, што яны разам з войскам пераедуць.

У 1946 годзе В. Жук-Грышкевіч разам з жаўнерамі-беларусамі арганізаваў у Лёндане, Англіі, першую пасьля вайны на эміграцыі беларускую арганізацыю - Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, быў ягоным першым старшынём. У гэтых гадох быў рэдактарам часопісаў: «На Шляху» і «Беларус на Чужыне». У травені 1949 году у "Reducie"- Інстытуце Блізкага й Сярэдняга Усходу ён даў два даклады на тэму "Kwestia Bialoruska", надрукаваны ў полскім часопісе "Kurs Spraw Wschodnich".

У студзені 1950 году В. Жук-Грышкевіч пераяжджае ў Таронта і , як і ў Англіі так і тут, стаецца "Spitius movens" - мазгом і рухавіком беларускага нацыянальна-грамадзкага й навуковага жыцьця ў Канадзе.

Як сябра Згуртаваньня Беларусаў Канады ставіць перад маладымі яшчэ сябрамі такія мэты й заданьні: «Нам патрэбая моцная нацынальная арганізацыя, верная ідэалам 25 Сакавіка, Ураду й Радзе БНР. Беларуская нацыянальная арганізацыя павінна мець, як маральную апору Беларускую Аўтакэфальную Праваслаўную Царкву. Нацыянальная арганізацыя павінна мець матарыяльную базу - свой для грамадзкага карыстаньня беларускі дом і сваю крэдытовую супалку. Каб мець значэньне, мы мусім браць удзел у канадзкім жыцьці, дзе мага быць прысутнымі.». Паводле вось гэтых пастулятаў праз поўстагодзьдзе разьвівалася й давала вынікі беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Канадзе.

Каб гэтыя мэты й заданьні асягнуць В. Жук-Грышкевіч рупіцца пра нацыянальнае ўзгадаваньне маладога грамадзтва. Артыкуламі на ўзгадаваўчыя, літаратурныя й гістарычныя тэмы ў газэце «Беларускі Эмігрант», ды сваімі дакладамі на сьвяткаваньнях літаратурных і гістарычнух угодкаў ён знаёміць грамадзтва зь літаратурай і гісторыяй Беларусі. Дбае пра ідэялягічнае здартоўе Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК). Каб ратаваць арганізацыю, пасьля яе расколу, ад заняпаду, ён, не старшыня ЗБК, арганізуе з найбольш нацыянальна сьведамых і дзейных сяброў здысцыплінаваную групоўку «Авангард», якая сама павінна трымацца й трымаць на духу й іншых сяброў; выдае часопіс «Бээнэравец». Групоўка сваё заданьне вылканала. ЗБК аджыло, і існуе па сяньня ўжо 55-ты год.

В. Жук-Грышкевіч меў візыю, быў ініцыятыўным і добрым арганізатарам. Ягоным стараньнем ў 1951 годзе пры унівэрсытэце Таронта быў адкрыты лектарат Беларусаведы, на якім ён быў выкладчыкам. Ён ініцыятар і галоўны арганізатар 1-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі у 1952 годзе. На міжнародным кангрэсе "Pax Romana" рэпрэзэнтаваў беларусаў у Таронта, Мантэалі й Квэвбэк Сіты. Навязаў сувязь з украінскімі арганізацыямі й у іхнім доме культуры даваў даклады зь беларускай літаратуры. Зарганізаваў Беларускую Крэдытовую супалку - "Byelorussian (Toronto) Credit Union Ltd." (1953). Супрацоўнічаў у газэтах «Беларускі Эмігрант» і «Бацькаўшчына». У восені 1952 году здабыў на Атаўскім унівэрдытэце навуковую ступень доктара філязофіі. 4 верасьня 1953 году ажаніўся зь беларускай студэнткай факультэту дэнтыстыкі Тарантонскага ўнівэрсытэту Раісай Жукоўскай, аўтаракай гэтых радкоў.

У лютым 1954 году Старшыня Рады БНР інж. Мікола Абрамчык накіроўвае др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў Мюнхэн Нямеччыну арганізаваць і весьці беларускую сэкцыю радыё «Вызваленьне» - цяпер «Свабода». 20 травеня, 1954 году беларускія радыёперадачы ўпершыню пайшлі ў эфір у Беларусь. На становішчы кіраўніка беларускай сэкцыі радыё «Вызваленьне» В. Жук-Грышкевіч быў да красавіка 1956 году, калі вярнуўся назад у Таронта, Канаду.

У Канадзе йзноў поўнасьцьцю ўключаецца ў беларускае нацыянальнае жыцьцё. Супрацоўнічае з прафэсарам Атаўскага унівэрсытэту др. В. Дж. Кэйэ ў апрацаваньні манаграфіі пра беларусаў Канады - "Canadians of Byelorussian Origin", дае матарыял пра беларусаў Канады для кнігі "Canadian Family Tree". У 1966 годзе арганізуе Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК), у 1967 - Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва у Канадзе (БІНіМ, Канада). Ён першы старшыня абедзьвюх арганізацый, якія дзейныя па сяньня.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч рэпрэзэнтуе беларусаў на агульна-канадыйскіх кангрэсах: у 1965 годзе, як прадстаўнік Згуртаваньня Беларусаў Канады бярэ удзел у зьезьдзе Рады Стагодзьдзя Канады ў Таронта, у 1966 годзе - на канфэрэнцыі "Rights and Responsibilities" u Port Elgin, na "Thinkers' Conference" u 1968 годзе ў Таронта.

На Другім Кангрюсе Канадыйскіх Славянаў у 1967 годзе ў Атаве др. В. Жук-Грышкевіч дае даклад на тэму: "Belorussians and Canadian Statistics"- «Беларусы й канадзкая статыстыка» і даказвае, што беларусаў у Канадзе ёсьць болей 50 тыусяч і яны павінны фігураваць у статыстыцы Канады. Дагэтуль беларусоў у сьпісе этнічных групаў Канады зусім ня было. Як старшыня Каардынацыйнага

Камітэту Беларусаў Канады перад Цэнзусам - перапісьсю насельніцтва Канады - ў 1971 годзе выдае Камунікат у беларускай і ангельскай мовах, які заклікае канадыйцаў беларускага паходжаньня памятаць пра свае беларускія карэньні й паясьняе, як правільна трэба выпаўняць апытальнік Censusu. Запачаткаваная В. Жук-Грышкевічам акцыя каманіі перад кожным Цэнсусам Канады, праводзіцца праз ККБК па сяньня, апошні раз ў 2001 годзе. Ён ня будучы ніколі старшынём Згуртаваньня Беларусаў Канады, быў заўсёды ягоным духовым кіраўніком. Каб правесьці ў жыцьцё задуманую ідэю, плян, ськлікаў актыў, прадстаўляў яму свой праект і даказваў, што «гэта трэба зрабіць» і «гэта» ставалася законам і выконвался.

Як сябра Рады БНР і старшыня Сэкртару Рады БНР на Канаду др. В. Жук-Грышкевіч апрацоўвае праект рэарганізацыі Рады БНР, зьмены Статуту і стварэньня нацыянальна-палітычнай бээнэраўскай арганізацыі Лігі БНР. Праект гэты, як дыскусійны матарыял, ён прадстаўляе на 10-ай Сэсіі Рады БНР, што адбылася 13 красавіка 1968 году ў Нью Ёрку. На гэтай Сэсіі др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў абраны першым заступнікам Старшыні Рады БНР.

Пасьля сьмерці, 29 травеня 1970 году, Старшыні Рады БНР інж. Міколы Абрамчыка Старшынём Рады БНР стаўся першы Заступнік др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а 11-я Сэсія Рады БНР 29 травеня 1971 году ў Нью Ёрку абрала яго Старшынём Рады БНР на наступны шасьцігадовы тэрмін.

За ягонага старшынства ў Радзе БНР быў прыняты на працягу 4-ох : 11-ай, 12 - ай, 13-яай і 15-ай - Сэсыяў Рады новы Статут Рады БНР. У 1973 г. В. Жук-Грышкевіч, як Старшыня Рады БНР, заснаваў і сарганізаваў «Фонд беларускіх падручнікаў», дзякуючы якому ў 1974 і 1978 гадох Выдавецкі Камітэт пры ККБК выдаў два тамы англямоўнага падручніка “Fundamental Byelorussian” - «Беларуская Мова», апрацаваны Валянцінай Пашкевіч і рэдагаваны праф. Антонам Адамовічам. На 60-я ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў 1978 годзе Старшыня Рады БНР В. Жук-Грышкевіч выдаў карту БНР і сваю працу «25 САКАВІКА»; праз гады свайго старшынства рэгулярна выдаваў «Камунікаты Прэзыдыюму Рады БНР». На становішчы Старшыні Рады БНР ён быў да лістапада 1982 году - амаль да 80-годзьдзя свайго жыцьця.

Апошнім асягненьнем др. В. Жук-Грышкевіча трэба лічыць ягоны вядучы ўдзел у пабудове ў 1988 годзе, на 1000-я ўгодкі хрысьціянства ў Беларусі, Беларускага памятнага Крыжа ў Сьвятыні Пакутнікаў у Мідланд у Канадзе - у “Martyrs’ Shrine in Midland Ontario”.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў чалавекам прынцыповым, сільнае волі, энэргічным, ініцыятыўным, дзейным, выдатным арганізатарам і лідэрам. І быў ён поўнасцьцю адданым беларускай вызвольнай справе. Ён, сын паняволенага народу, верыў, што Бог даў яму жыцьцё й сілы перажыць савецкія лягеры сьмерці па тое, каб аддаць сваё жыцьцё на службу Бацькаўшчыне-Беларусі. Акт 25 Сакавіка, як ён казаў, быў для яго «пуцьцяводбнай зоркай» жыцьця, і павінен быць ёю для кожнага беларуса. Аддаў сваё працавітае й творчае, ахярнае й пакутнае жыцьцё Вінцэнт Жук-Грышкевіч на службу Бацькаўшчыне-Беларусі, закончыў яго 14 лютага, 1989 году ў Бэры Канадзе. Ашчадкі яго спачываюць на беларускім могільніку Жыровіцкае Божае Маці ў Іст Брансвіку ў ЗША. На надмагільным помніку выява Пагоні, арнамэнт з «Малое падарожнае кніжкі» Франьцішка Скарыны й напіс кірыліцай пабеларуску.

Для нашчадкаў пакінуў Ён запавет: Дзяржаўная незалежнасьць Беларусі павінна быць «пуцьцяводнаю зоркай» - мэтай жыцьвця кожнага беларуса. Дык наперад за запаветам Вінцэнта Жук-Грышкевіча - за Незалежную Беларусь!

Бэры, Канада,
Студзень, 2003

Раіса Жук-Грышкевіч

# РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**ПРЭЗЫДЫЮМ**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

Люты, 2003 год

Дарагія мае Браты і Сёстры Беларусы,

25-га Сакавіка 1918-га году, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвесьціла Беларусь незалежнай, дэмакратычнай дзяржавай. Народ наш ўжо тады разумеў, што толькі вольным ад чужой акупацыі, ён можа асягнуць мэту кожнага народу - быць гаспадаром у сваім доме.

Каб мы тады мелі магчымасьць абараніць нашую новаздабытую незалежнасьць, то наш край займаў-бы цяпер пачэснае месца між іншымі вольнымі народамі сьвету. Мы жылі-б нармальна, не баючыся гаварыць тое, што думаем, ды галасаваць за тых кандыдатау, якія гатовыя найболш зрабіць для нашага дабра і для дабра нашай Бацькаўшчыны. Нашай мэтай ня было-б выехаць за граніцу ў пошуках волі ды кавалка хлеба, а адбудаваць наш край, так як гэта робяць нашыя суседзі. Наш народ працавіты, таленавіты, разумны. Няма той мэты, якой мы не маглі-б асягнуць.

Але вышла яно інакш. Нас акупавала найбольш зьверская ў гісторыі чалавецтва імпэрыя. Дзякуючы «братэрскай Расеі», за 20-ты век Беларусь страціла больш за палову свайго насельніцтва. Нас вывозілі, расстрэльвалі, катавалі. Адбіралі ад нас нашую маемасьць, нашую гістарычную памяць, нашую мову. А мы глядзелі на ўсё гэта, І чакалі, што нешта зьменіцца без нашага ўдзелу.

Былі часы, калі гэта было зразумела. Народ стараўся неяк выжыць.

Цяпер-жа, сьвет нас не разумее. Не разумее народу, які ня хоча ведаць дзе праўда, а дзе прапаганда, дзе справядлівасьць ды людзкая годнасьць, а дзе няволя ды генацыд. Сьвет не разумее як наш народ мог двойчы дапусьціць да ўлады Лукашэнку, як ён можа дазваляць амонаўцам зьдзекавацца над жанчынамі, як ён можа гадзіцца з паўторнымі фальсыфікацыямі выбараў. Не разумее чаму наш народ ня вышаў сотнямі тысяч, каб бараніць сваю незалежнасьць калі Пуцін заявіў, што ён хоча зрабіць з нас расейскую губерню.

Колькі часу яшчэ розныя прайдзісьветы будуць над намі зьдзекавацца, трактаваць нас як тавар, якім можна гандляваць у імя чужых інтарэсаў?

Расейскі фактар адыйгрывае безумоўна вялікую ролю. Масква ніяк ня можа пагадзіцца з тым, што на яе дарозе ў Калінінград ды ў Эўропу знаходзіцца незалежная дзяржава, зь якою трэба лічыцца. Усё будзе рабіць, каб нас неяк зноў уключыць у сваю імпэрыю.

Але Масква нічога ня зможа зрабіць супраць нас, калі мы гэтага не дапусьцім. Час прачнуцца! Час абвесьціць сьвету, што мы хочам быць вольнымі і незалежнымі, што мы болш не дазволім нікому нас прадаваць! Калі мы гэтага цяпер ня зробім, калі дазволім Маскве нас «інтэграваць», тады назаўсёды загінем як нацыя, як народ.

Першым крокам нашага адказу Пуціну могуць стацца шэсьці, якія адбудуцца ў Менску і ў іншых гарадох Беларусі з нагоды нашага сапраўднага нацаыянальнага сьвята, 25-га Сакавіка. У гэты дзень увесь беларускі народ мусіць сказаць сьвету, што ягоная воля, ягоная незалежнасьць, ягоная маемасьць, ягоныя грошы, ягоная тэрыторыя не падлягаюць ніякаму шантажу, ніякаму гандлю.

Толькі у сваей уласнай, незалежнай краіне, мы абаронім тыя чалавечыя правы, якімі карыстаецца ўвесь цывілізаваны сьвет. Толькі калі будзем гаспадарамі яе будзем жыць так як жывуць людзі ўва ўсіх нармальных краінах сьвету. Але гэта не станецца без нас, без нашага ўдзелу! Прыпомнім яшчэ раз словы нашага прарока Янкі Купалы:

Паўстань народ! Для будучыні шчасьце
Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед,
Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці -
Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет.

Жыве Беларусь!

Івонка Сурвілла

Івонка Сурвілла
Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі